А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*




МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 821.161.3.09(075.2=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра беларускай і рускай моў Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова (канд. філал. навук, дац., загадчык кафедры *Л. І. Шапавалава*);
метадычнае аб’яднанне настаўнікаў пачатковых класаў пачатковай школы № 103 г. Мінска

**Умоўныя абазначэнні:**

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — слоўнік

**Вольскі, А. В.**
В71 Літаратурнае чытанне : падруч. для 2-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з рус. мовай навучання / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — 128 с. : іл.
ISBN 978-985-559-021-8.

**УДК 821.161.3.09(075.2=161.1)**
**ББК 83.3(4Беи)я71**

**ISBN 978-985-559-021-8**

## НЕ ПРОСТА Ў СЛОВЫ Я ГУЛЯЮ —
## НА МОВЕ РОДНАЙ РАЗМАЎЛЯЮ...

*Мікола Мятліцкі*




### МАЛЕ́НЬКІ ЧАЛАВЕК У ВЯЛІКІМ СВЕЦЕ

*Алесь Бадак*

А ці ведаеш ты, дзе ты жывеш? «Ну вядома ж, ведаю, — напэўна, адкажаш ты, — дома!» Але што такое «дом»? Правільна, гэта кватэра ці хата, дзе ты спіш, гуляеш, ясі, глядзіш тэлевізар, — гэта твой дом. Там яшчэ жывуць твае мама, тата, брацікі, сястрычкі. Там у цябе ёсць шмат цацак і кніжак.

Але вось ты з татам і мамай паехаў у іншы горад ці вёску. У госці. Значыць, твой дом — не толькі твая кватэра, але і ўвесь Мінск, цэлы горад! А нехта жыве ў вёсцы. Значыць, яго дом — цэлая вёска...

А цяпер паглядзі навокал. Бачыш вунь той лес? Гэта твой лес. Таму што ты можаш разам са сваімі татам і мамай у любы час пайсці ў яго ў грыбы ці ягады. Але гэта лес і ўсіх тваіх сяброў. І Валеркі, і Наташкі, і Марынкі, і Сяргейкі.



І рэчка, на якой ты дапамагаў старэйшаму брату лавіць рыбу, таксама агульная. Наша.

А ўсё гэта — і лес, і рэчка, і зямля, па якой ты ходзіш, і горад, у якім ты жывеш, і вёска, у якой жывуць твае бабуля і дзядуля, — усё гэта разам называецца адным словам — Радзіма. У яе і імя́ ёсць — Беларусь. Прыгожае імя, праўда?

Ну а людзі, якія жывуць у Беларусі, гэта значыць мы з табой, называюцца беларусамі. На хлопчыка гавораць беларус, а на дзяўчынку — беларуска або беларусачка.



1. Якое імя ў нашай Радзімы?
2. Як называюцца людзі, якія жывуць у Беларусі?
3. Якім адным словам можна замяніць словы «Бацькаўшчына», «Айчына», «краіна»?
4. Прачытайце тэкст, пачынаючы са слоў «А ўсё гэта...». Правільна вымаўляйце словы з гукам [дз’].

## БЕЛАРУ́САЧКА

*Алесь Бадак*



Твар румя́ненькі,
Белая ху́стачка.
Я ўжо ведаю,
Я — беларусачка!
**І хачу**
**Так, як тата і мама,**
**Родны край свой любіць**
**Я таксама.**



1. З якім пачуццём аўтар піша пра беларусачку? Пацвердзіце словамі верша.
2. Знайдзіце і прачытайце ў вершы ўсе ласкавыя словы. Для чаго яны ўжыты?
3. Як вы разумееце выдзеленыя радкі верша?
4. Прачытайце верш выразна. Правільна вымаўляйце словы з гукам [ч].

## Я — БЕЛАРУС МАЛЕ́НЬКІ

*Мікола Маляўка*

Я — беларус маленькі,
Спяшаюся да школы.
Як і бацькі́, сумле́нны,
Руплі́вы і вясёлы.

Я — беларус маленькі
З блакі́тнымі вачыма.
Хачу і я, каб ле́пей
Жыла мая Радзіма.





*Сумле́нны* — адказны, праўдзівы, шчыры.
*Руплі́вы* — клапатлівы, старанны.
*Блакі́тны* — светла-сіні.



1. Пра каго гаворыцца ў вершы?
2. Знайдзіце радкі, якія характарызуюць хлопчыка. Прачытайце.
3. Як вы разумееце апошнія два радкі верша?

## РАДЗІМА

*Артур Вольскі*

Радзіма ў нас бязмежная,
спякотная і снежная.
Радзіма ў нас лагодная,
нібы матуля родная.
А самае галоўнае:
усе ёй дзеці
роўныя.



*Спяко́тны* — вельмі гарачы.
*Лаго́дны* — добры, ласка́вы.



1. Пра што расказвае паэт у вершы? Якая наша Радзіма?
2. З кім аўтар параўноўвае Радзіму?
3. Што самае галоўнае для нашай краіны? Прачытайце.
4. Прачытайце верш хорам.

## ПРЫКАЗКА

- Родная зямля мякчэйшая за чужую пярыну.

## ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ

*Леанід Пранчак*

Бор спявае,
Сонца свеціць,
Жыта спее ў палях.
Прыгажэйшая на свеце
Беларуская зямля.

Падрастай,
Маленькі буслік,
І да воблакаў крыля́й.
Мы жывём у Беларусі —
Гэта наш спрадве́чны край.





*Крыля́ць* — узлятаць высока ў неба.
*Спрадве́чны* — вельмі стары́; які існуе здаўна́, старадаўні.



1. Ці спадабаўся вам верш? Чым?
2. У якіх радках верша аўтар піша пра прыгажосць нашай зямлі? Прачытайце.
3. Як па-іншаму можна назваць верш?
4. Для каго Беларусь з'яўляецца спрадвечным краем? Чаму?
5. Вывучыце верш на памяць.

## ПРЫКАЗКА

- Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.



# ВЕРАСЕНЬ БУКЕТЫ ЗАПРАСІЎ У ШКОЛУ...

*Мар’ян Дукса*



## РАЗВІТАННЕ З ЛЕТАМ

*Мар’ян Дукса*

**Верасень букеты**
**Запрасіў у школу.**
Дзякуй, дзякуй, лета,
За спачы́н вясёлы.

Будуць доўга сніцца
Нам сцяжынкі гаю,
Пахкія суніцы,
Раніца грыбная,

Зы́чны грай птушыны,
Песні ў паднябессі.
Даспявай, рабіна,
Ты без нас у лесе.



*Спачы́н* — перапынак у працы.
*Зы́чны грай* — гучны крык птушак.



1. Якія малюнкі лета апісвае аўтар? Знайдзіце адказ у вершы. Прачытайце.
2. Чаму паэт так назваў свой верш?
3. Растлумачце, як вы разумееце выдзеленыя радкі верша.
4. Падумайце, як трэба чытаць гэты верш — гучна і хутка або ціха і павольна. Чаму?
5. Прачытайце верш выразна. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дз'], [г], [ў].

## ПРЫКАЗКІ

- Добра таго вучыць, хто ўсё хоча ведаць.
- Кніга — маленькае акенца, ды праз яго ўвесь свет відзён.
- Да чаго розумам не дайду, тое ў кніжках я знайду.

## ШКОЛА



Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:

1. Куды прыйшлі дзеці?
2. Што яны нясуць у руках?
3. Хто іх сустрэў каля школы?
4. Які настрой у дзяцей?
5. Пра што размаўляюць хлопчыкі?

## НАТАШЫН БУКЕЦІК

*Нічыпар Парукаў*

Вясной мама ў кве́тніку ўскопвала градкі. Наташа памагала ёй.

Мама вынесла з хаты каляровы пакецік, насыпала Наташы на далонь дробненькіх зярнятак і сказала:

— Сей сама. Гэта будуць твае кветкі.

Дзяўчынка рассеяла зярняткі па ўсёй градцы, загрэбла грабля́мі так, як паказала мама. Міну́ла некалькі дзён, і на градцы ў кветніку густа зазелянелі кволенькія раслінкі.

І вось надышлі цёплыя летнія дні.

Усё лета Наташа даглядала свае кветкі. У кветніку расцвілі духмяныя рамонкі і астры.




А першага верасня Наташа нарвала вялікі букет і ўзяла з сабой у школу.

Радасна было́ дзяўчынцы зане́сці сваёй першай настаўніцы букет прыгожых кветак.



1. Ці можна па назве і ілюстрацыі вызначыць, аб чым пойдзе размова ў тэксце?
2. Што сказала маці дачцэ вясной? Прачытайце.
3. Што зрабіла Наташа вясной? Што рабіла летам? Прачытайце.
4. Чаму дзяўчынцы было радасна несці букет?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання той часткі тэксту, якая вам асабліва спадабалася.

## ЗАЗВІНІЦЬ ЗВАНОК

*Артур Вольскі*

Абрывае восень
за лістком лісток.
Сёння,
роўна ў восем,
зазвініць званок.

Дождджык ціхі
ў шыбы,
як назо́ла, б’е.
Ён шапоча нібы
нешта пра сябе.



А мы сонца просім:
— Выгляні з аблок!..
Хутка,
роўна ў восем,
зазвініць званок.



*Назо́ла* — той, хто вельмі дакучае.



1. Пра што гаворыцца ў вершы?
2. Што засмучае дзяцей? Аб чым яны просяць?

3. Якія восеньскія прыкметы апісвае аўтар? Прачытайце.
4. Якія прыкметы восені вы заўважылі ў прыродзе?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дж], [р], з апострафам.

## ЗАГАДКА

Зроду ён ні есць, ні п’е —
песні голасна пяе
і з урока на ўрок
падае́ свой галасок.



## СЯБРОЎКІ ІДУЦЬ У ШКОЛУ

*Любоў Варанкова*

### 1

Гэтыя некалькі дзянькоў праляцелі вельмі хутка, праляцелі, як жоўтыя лісцікі з бярозы, што сарваў і панёс з сабой вецер. Надышоў дзень першага верасня.

У гэты дзень Таня прачнулася вельмі рана. Яснае вераснёўскае сонца касымі праменямі заглядала ў акно, і ў бабулі яшчэ палілася ў печы.

2

Таня ўсхапілася з пасцелі і, шлёпаючы босымі нагамі, пабегла на кухню.

— Ты чаго падхапілася гэтак рана? — сказала бабуля. — У мяне яшчэ і снеданне не гатова!

— Дык і трэба, каб рана! — адказала Таня. — Ты, бабуля, мабыць, усё забыла!

— А што ж гэта я забыла?

— Бабуля, ды я ж сёння ў школу іду!

— Ну і чаго ж ты крычыш? — здзівілася бабуля. — У школе таксама ўрокі не з цямна пачынаюцца.

Тут яна выняла з печы патэльню, на якой шыпеў піражок, і сказала:

— Вось я табе і піражок спякла, з сабою возьмеш у школу. Бачыш, нічога я не забыла!

Таня пабегла на га́нак мыцца. Шчокі і вушы адразу пачырванелі ад халоднай ва-

ды. Таня добра выцерлася ручніком, але паглядзела на свае рукі і зноў пабегла на ганак. Рукі ў яе былі абветраныя, карычневыя ад загару. Таня церла іх і намыльвала, церла і намыльвала...

— Ды хопіць табе ўжо! — сказала бабуля.

### 3

На снеданне прыйшла маці з малацьбы.

— Я зараз сама дачку ў школу збяру, — сказала яна. — Ану, ідзі сюды!

Яна дала Тані адпрасаваную сукенку, зашпіліла на ёй белы фартушок, сунула ёй у кішэньку новую насовачку і сама расчасала Тані валасы. Расчасала і задумалася.

— А што ж нам з тваімі валасамі рабіць? Або падстрыгчы іх трэба, або коску заплесці.

— Коску заплесці! — сказала Таня.

### 4

Маці дастала з камо́ды сіні каснічо́к і запляла Тані коску. Коска выйшла малень-

кая і закручвалася ўгору. Але Таня радавалася і ганарылася і ўсё кра́тала яе рукою. Таня яшчэ ніколі ў жыцці не хадзіла з коскай!

Маці агледзела Таню з усіх бакоў, ці ўсё на ёй добра, і сказала:

— Вучыся, дачка, старанна, слухай, што настаўніца будзе казаць, набірайся розуму!

## 5

Таня піла чай і дзьмухала ў спо́дак, бо яна спяшалася, а чай быў гарачы і ніяк не астываў. У гэты час у акно заглянула Алёнка.

Таня паставіла сподак з чаем:

— Пойдзем?

Алёнка кіўнула галавой.

— Ды куды ж ты? — сказала Тані бабуля. — Ты ж хоць чай дапі!

Але Таня ўжо схапіла сваю сумку, якую яна падрыхтавала да школы, і выбегла на ганак.



*Га́нак* — прыбудова з прыступкамі і навесам перад уваходам у хату.
*Камо́да* — невысокая шафа для бялізны і розных хатніх рэчаў.
*Каснічо́к* — стужка, якую ўплятаюць у валасы.
*Кра́таць* — дакранацца да чаго-небудзь, варушыць.
*Спо́дак* — невялікая талерка.



1. Чаму Таня прачнулася першага верасня вельмі рана?
2. Як Таня рыхтавалася ў школу?
3. Які наказ маці дала дачцэ?
4. Прачытайце тэкст і размяркуйце пункты плана ў адпаведнасці з часткамі тэксту.

П л а н

- Матчын наказ.
- Хваляванне Тані і Алёнкі.
- Маці збірае дачку ў школу.
- Раніца першага верасня.
- Размова Тані з бабуляй.

5. Зрабіце малюнак да той часткі тэксту, якая найбольш вам спадабалася.

## ЧАМУ ПАРТФЕЛЬ ПЛАКАЎ

*Наталля Чарнабай*

Пайшоў Цімафейка ў школу. Прывык за лета гойсаць па вуліцы да цемнаты, а тут урокі трэба вучыць, маляваць нешта, майстраваць.

Аднойчы прыйшоў ён са школы, кінуў партфель на ганак, а сам пабег з сябрамі ў футбол гуляць. Выйшла сястрычка з дому, бачыць — ляжыць партфель без гаспадара. І рашыла: «Правучу я цябе, Цімошка! Будзеш ведаць, як партфель абы-дзе кідаць». Узяла і схавала партфель у кустах. Набегаўшыся, Цімафейка плюхнуўся на ложак са скібкай хлеба ў руцэ. А сон міжволі закалыхвае. І тут спахапіўся: «Ой, урокаў жа не зрабіў!» Устаў, ходзіць па хаце, партфель шукае.

Сястрычка глядзела, глядзела, а потым і кажа:

— Ты партфель шукаеш? Я ўдзень бачыла, як ён на ганку плакаў, скардзіўся: «Не беражэ мяне Цімошка, кідае ў гразь,



нагамі месіць». Сказаў, што ўцячэ ад цябе. Бяжы хутчэй на двор, можа, ён дзе за куст зачапіўся. Знойдзеш, пакуль не позна.

Цімафейку як ветрам здзьмула з хаты. Тупае па ганку, узіраецца ў цемру, слёзы бягуць па твары — боязна ўсё ж. Убачыў партфель у кустах, схапіў, прыціснуў да грудзей і, радасны, прынёс у хату.

— Во, знайшоўся! Не захацеў ад мяне ўцячы!

Сястрычка ўсміхаецца хітравата, а Цімафейка гладзіць партфель ласка́ва, якката, ды прыгаворвае:

— Міленькі, прабач, калі ласка! Я больш ніколі не буду пакіда́ць цябе на ганку.



1. Чаму апавяданне так названа?
2. Знайдзіце ў тэксце сказ, у якім даецца адказ на пытанне «Чаму партфель плакаў?».
3. Растлумачце, як вы разумееце выраз «як ветрам здзьмула з хаты».
4. Чаму Цімафейка прасіў прабачэння ў партфеля?
5. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да чытання ўголас. Правільна вымаўляйце гукі: [дз’], [ч], [ж], [ц’].

## ДВА ТАВАРЫШЫ

*Леў Талстой*

Ішлі лесам два таварышы, і выскачыў на іх мядзведзь. Адзін кінуўся бегчы, узлез на дрэва і схаваўся, а другі застаўся.

Што было́ яму рабіць? Ён упаў на зямлю і прыкінуўся мёртвым.

Мядзведзь падышоў да яго і стаў нюхаць. Ён і дыхаць перастаў.

Мядзведзь панюхаў яго твар, падумаў, што мёртвы, і адышоў.

Калі мядзведзь пайшоў, таварыш злез з дрэва і смяецца. «Ну што, — кажа, — мядзведзь табе на вуха гаварыў?»

«А ён сказаў, што кепскія тыя людзі, якія ў небяспецы ад таварышаў уцякаюць».



1. Што вам не спадабалася ў паводзінах аднаго з таварышаў? Чаму?
2. А як бы паступілі вы?
3. Прачытайце апошні сказ і адкажыце, як вы разумееце яго сэнс.
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пры чытанні звярніце ўвагу на знакі прыпынку.
5. Якія ілюстрацыі можна намаляваць да тэксту? Колькі?
6. Перакажыце тэкст.

## ПРЫКАЗКА

- Прыяцеля ў няшчасці пазнаеш.

## ВЕТЛІВЫЯ СЛОВЫ

*Тадзіяна Кляшторная*

«Калі ласка», «дзякуй»,
«Добры дзень» —
Ветлівыя словы
Чую ад людзей.

Я таксама буду
Імі даражыць:
З ветлівымі словамі
Лёгка жыць.



1. Якія ветлівыя словы вы яшчэ ведаеце? Назавіце іх.
2. Чаму з ветлівымі словамі лёгка жыць?
3. Прачытайце верш шэптам і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## ГУЛЬНЯ

*Уладзімір Ліпскі*

Гаваркое Г гайдала Галку на галіне, прыгаворвала:

— Галка-Галка, галодная графіня, не ганяй галубоў у галубятні, не грызі гарбузі-



каў. Гэй-гоп-гу́ленькі! Гэй-гоп-гуленькі! Гэй-гоп-гуленькі!..

Гена, Грыша, Груня, Гэля гулялі ў гарадкі. Глядзяць — Г гайдае Галку, гукаюць:

— Гэй, Г, пагуляй з намі ў гарадкі.

Г кінула гайдаць Галку:

— Гушкайся, Галка, сама. Я пагуляю ў гарадкі.

Галка-гультайка ў гвалт:

— Г, гайдай Галку!

Галка галёкала. А Г бегла да Гены, Грышы, Груні, Гэлі.

Гуртам за горадам гулялі ў гарадкі.



1. Які гук часцей за ўсё ўжываецца ў тэксце «Гульня»?
2. Як [г] вымаўляецца ў беларускай мове? А ў рускай? Свае адказы пацвердзіце прыкладамі.
3. Прачытайце тэкст уголас, правільна вымаўляйце гук [г].

## ХТО Я?

*Сяргей Пагарэлаўскі*

Кім ужо не быў я толькі!
Сто імён змяніў — не меней:
гэта ж я адразу
школьнік,
сын,
унучак,
брат,
пляменнік.

Для Міколкі я — ДРУЖБАК
і ТАВАРЫШ — гэта так.



1. Чаму на адно пытанне «хто?» у хлопчыка столькі адказаў? Патлумачце *(школьнік, бо вучыцца ў школе...).*
2. Замяніце загаловак «Хто я?» на «Хто ён?». Ці зменіцца пытанне? А імёны?
3. Навучыцеся чытаць верш выразна. Вымаўляйце словы, якія напісаны вялікімі літарамі, з інтанацыяй пералічэння.

## ЗАГАДКІ

*Міхась Пазнякоў*

* * *



Бацька радасна люляе
Сотні дзетак на руках.
Шапка ў бацькі лісцяная,
Дзеткі ўсе ў капелюшах.

* * *

Славен край наш здаўна,
Трыста розных страў — яна.
І зімой, і летнім часам
На яе мы вельмі ласыя.





* * *

Прысеў пад плотам
Рыжы кот,
Павесіў доўгі хвост
На плот.

* * *



Сакавіты, круглаваты
Здаравяка гэты.
Нам патрэбен на салаты
І на вінегрэты.

* * *



Выспеў на градзе
Белы чарадзей.
Галава на славу,
Да зубка — зубок.
Добрая прыправа,
А завуць ... .

## МЫ НЕ ЗАЎВАЖЫЛІ І САМІ,
## ЯК ВОСЕНЬ ПА ЗЯМЛІ ПАЙШЛА...

*Пятро Прыходзька*



### ВОСЕНЬ

*Вера Вярба*

Восень, мая чарадзейка,
Ходзіць па лесе, пяе́,
**І залатая жале́йка**
**Песні разносіць яе.**

Восень, прыйдзі ты ў школу,
У светлы адчынены клас.
Песням і гульням вясёлым
Ты навучыся ў нас.



*Жале́йка* — народны музычны інструмент у выглядзе дудкі.



1. Чаму аўтар называе восень чарадзейкаю?
2. Як вы разумееце выдзеленыя радкі верша?
3. Якія словы дапамагаюць уявіць восень як жывую істоту? Прачытайце.
4. Прачытайце верш выразна. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дз'], [ч].
5. Апішыце сваімі словамі:

   I варыянт — **«Восень у парку»**. Словы для выкарыстання: *апалае лісце, дрэвы і кусты, жоўтае лісце, букеты, экскурсія, дзеці, цішыня, укрыла зямлю.*

   II варыянт — **«Восень у агародзе»**. Словы для выкарыстання: *багаты ўраджай, лісце пажоўкла, сабралі, апусцелі градкі, агародніна, цыбуля, капуста, агурочнік, морква, бульба.*

## ЗАГАДКА



Сіта — не сіта, рукамі не віта,
І пража — не пража.
Хто знае — той скажа.

## ВОСЕНЬ НА ПАРОЗЕ

*Уладзімір Ягоўдзік*

Учора з раніцы і да самага вечара дажджыла. А сёння зусім па-ліпеньску спякотлівы дзень. І цішыня. Толькі дзесьці звонка ціњкаюць сінічкі. Помніце такую прыказку: «У верасні сініца ў госці восень запрашае»?

Восень — на парог, а шматлікае крылатае войска — у вы́рай. Першымі ў заморскія краіны адлятаюць стрыжы і ластаўкі. За імі ў няблізкую дарогу выпраўляюцца плі́скі, буслы, шпакі... А ў канцы верасня чуюцца само́тныя трубныя крыкі жураўлёў.





*Вы́рай* — цёплы край, куды ляцяць на зіму́ птушкі.

*Плі́ска* — невялікая птушка з доўгім хвастом.

*Само́тны* — сумны, журботны; адзінокі.



1. Які настрой выклікаў у вас гэты твор? Чаму?
2. Якія прыкметы восені апісваюцца ў тэксце? Прачытайце.
3. Як вы разумееце прыказку: «У верасні сініца ў госці восень запрашае»?
4. Якія карціны вы намалявалі б да тэксту?
5. Чаму твор так называецца? Паразважайце.
6. Прачытайце твор уголас. Пастарайцеся перадаць восеньскі настрой гэтага твора. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дз’], [дж], [р].

## ПРЫКАЗКА

- **Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.**



## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

*Якуб Колас*

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі ў вырай
Мкну́цца над лясочкам.



*Мкну́цца* — імкнуцца, хутка рухацца, накіроўвацца куды-небудзь.



1. Які настрой выклікае гэты верш? Пацвердзіце словамі з тэксту.
2. Як ласкава аўтар называе радок жураўлёў? Як вы гэта ўяўляеце?
3. У якім тэмпе трэба чытаць першы слупок верша? Якія словы падказваюць гэта? Прачытайце.
4. Вывучыце верш на памяць.








Разгледзьце малюнкі. Адкажыце на пытанні:

1. Куды пайшлі дзеці?
2. Што здарылася з хлопчыкам Паўлам?
3. Як паводзіла сябе дзяўчынка Алеся?
4. Хто выручыў дзяцей з бяды?

5. Вусна складзіце апавяданне па малюнках. Прыдумайце загаловак.
Словы для выкарыстання: *дзеці, пайшлі ў лес, грыбы, заблудзіўся, гукала, дзядуля, сабака Дружок, радасная сустрэча, кошыкі, поўныя, многа.*

## ЧАМУ ВОЛЕЧКА НЕ САРВАЛА КВЕТКУ

*Васіль Сухамлінскі*

Раніцай Волечка ішла ў школу. Каля дарогі яна ўбачыла рамонак.

Ой, які прыгожы! Волечка працягнула руку́, каб сарваць кветку і зане́сці ў школу. Але раптам яна ўбачыла на пялёстачку кропельку расы. А ў кропельцы — сон-



ца. І блакітнае неба, і высокая таполя — усё ў кропельцы!

Заглядзелася Волечка на чароўную расінку і не сарвала кветку.



1. Чаму Волечка не сарвала кветку? Пацвердзіце словамі з тэксту.
2. Знайдзіце і прачытайце самыя важныя, на вашу думку, сказы ў тэксце.
3. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дз'], [р], [ч].
4. Перакажыце апавяданне. Прыдумайце яго працяг.

## ХЛЕБНЫЯ КРОШКІ

*Мікола Янчанка*

Я неахайна адламаў кавалак хлеба. Крошкі так і пасыпаліся на падлогу. Убачыла гэта бабуля і абу́рылася:

— Ты што, хочаш голад наклікаць?

— Як гэта — голад? — здзівіўся я.

— А так. Падбярэ крошкі павук і па сваёй павуціне на ліпу палезе. Так і даведа-

ецца сонца, што людзі яго дары́ не шану́-
юць. Раззлуецца. І спаліць гарачымі пром-
нямі жыта на полі. Вось і пачнецца тады
голад.

Спалохаўся я. Бач, якую бяду мог наклі-
каць. Таму адразу папрасіў прабачэння:

— Даруй, бабуля! Больш так рабіць не
буду.



— Ведаю, што не будзеш, — палагаднéла бабуля. — А калі захочаш хлеба — вазьмі нож і адрэж скібачку. Цяпер жа збяры гэтыя крошкі ў жменьку ды курыцы аднясі. Яна табе яечка знясе.



*Абýрыцца* — раззлавацца.
*Шанавáць* — беражліва адносіцца, берагчы.
*Палагаднéць* — падабрэць.
*Скібачка* — кавалачак хлеба, лустачка.



1. Чаму абурылася бабуля на ўнука?
2. Што бабуля расказала ўнуку? Прачытайце.
3. За што ўнук папрасіў прабачэння ў бабулі?
4. Чаму вучыла бабуля хлопчыка?
5. Якую карціну вы намалявалі б да тэксту? Апішыце яе.

## ПРЫКАЗКІ

- Хлеб — усяму галава.
- Без хлеба паўабеда.

# ШТО Ў НАРОДЗЕ СКАЖУЦЬ, ЯК У ВУЗЕЛ ЗВЯЖУЦЬ...



## КАЛЫХАНКІ

* * *

Люлі, люлі, люлі!
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах...

* * *

Баю, баю, баенькі,
Люлі, люлі, люленькі,

Прыляцелі гуленькі,
Селі яны ў люленькі.
Сталі яны буркава́ць,
Малютачку калыхаць...
Маўчы, маўчы, не крычы.





*Буркава́ць* — утвараць характэрныя для галубоў гукі; лагодна і пяшчотна размаўляць.



1. Якімі словамі звычайна пачынаюцца калыханкі?
2. Прачытайце ласкавыя словы ў калыханцы.
3. Выберыце адну з калыханак і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
4. Праспявайце калыханку, якая найбольш спадабалася.

## ЗАБАЎЛЯНКІ

* * *



Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывая,
Кабылка сляпая.

* * *

— Ладу-ладу-ладкі,
Дзе былі́?
— У бабкі.
Бабулька казала,
Як нас частавала:
— Прыходзьце часцей,
Пачасту́ю ляпей.





*Частава́ць* — даваць або прапаноўваць паесці, папіць; пакарміць.



1. Пра што ідзе гаворка ў забаўлянках?
2. З якой мэтай іх выконвалі?
3. З якім настроем трэба чытаць забаўлянкі?

# ЗА́КЛІЧКІ

* * *

Дожджык, дожджык, секані,
Я паеду на кані.
Дожджык, дожджык, перастань,
Я паеду на Растань.



* * *

Божая кароўка,
Паляці на небка,
Там твае дзеткі
Кашту́юць катлеткі,
Квасам запіваюць,
Хлебам заядаюць.



*Каштава́ць* — спрабаваць ежу.



1. Як вы разумееце сэнс слова «за́клічка»?
2. Што прасілі дзеці ў дожджыка? У божай кароўкі?
3. Якім тонам трэба чытаць заклічкі?
4. Вывучыце адну з іх (на выбар) на памяць.

## ПРЫКАЗКІ

- Вясенні дзень год корміць.
- Увосень і верабей багаты.
- Вясну хваляць за дождж і сонца, а лета — за снапы і вазы́.
- Добраму госцю вароты самі расчыняюцца.
- Дожджык вымачыць, а сонейка высушыць.
- З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.
- На хаценне ёсць цярпенне.
- Пад ляжачы камень вада не цячэ.
- Работа і корміць, і поіць, і жыць вучыць.
- Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць.
- Слова не верабей: вылеціць — не зловіш.



1. Прачытайце прыказкі пра поры года. Як вы іх разумееце?
2. Прачытайце прыказкі пра адносіны да працы. Растлумачце іх.
3. Прачытайце прыказкі пра адносіны да людзей. У якіх выпадках іх можна ўжыць?

## У ЗІМЫ І ЛЕТА СВАЕ ПРЫКМЕТЫ

- Восень — работ восем.
- Навальніца ў верасні — восень будзе цёплая.
- Гусі ляцяць — зімачку на хвасце цягнуць.
- Зіма без снегу — не быць хлебу.
- Якая зіма, такое і лета.
- Студзень зямлю студзіць.
- Вясна багата кветкамі, а восень — пале́ткамі.
- Грак на гары — вясна на двары.
- Красавік з вадою — май з травою.



*Пале́так* — участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы.



1. Як вы разумееце сэнс загалоўка?
2. Прачытайце прыкметы пра восень і растлумачце, як вы іх разумееце.
3. Да якога твора, які вы вывучалі раней, падыходзіць прыкмета пра восень? Знайдзіце і прачытайце назву гэтага твора.
4. Вывучыце на памяць прыкметы, якія вам спадабаліся.

## ЛІЧЫЛКІ

* * *

Пятро, Пятро,
Падай вядро.
Карове піць —
Табе жмуры́ць.



* * *

Каціласся торба
З вялікага горба.
А ў той торбе —
Хлеб, пшаніца.
З кім ты хочаш
Падзяліцца?



*Жмуры́ць* — прыкрываць, заплюшчваць вочы, гуляючы ў жмуркі.



1. Калі ўжываюцца лічылкі?
2. Якія лічылкі вы звычайна выкарыстоўваеце ў гульнях?
3. Вывучыце на памяць лічылку, якая вам спадабалася.

## СКОРАГАВОРКІ

Гавары — не спяшайся,
і глядзі — не памыляйся!

- Вадавоз вёз ваду ад водаправода.
- Дзятлы дзюбамі дзяўблі дрэвы.
- Занадта многа ножак у саракaножак.
- Тры дрывасекі на трох дварах дровы сякуць.
- Хварэў, хварэў, перахварэў, ды нарэ́шце хваробу вылечыў.
- Тчэ ткач тканіну на хустачку Яніне.
- У чаплі чапляня, у зайкі зайчаня.
- Пёк Пракоп-хлебапёк Пятру пернік і пірог.
- Ракі, рыбы і рака абхітрылі рыбака.



*Нарэ́шце* — пасля ўсяго, напаследак.



1. Прачытайце скорагаворкі спачатку павольна, а потым хутка.
2. Выберыце адну-дзве скорагаворкі, якія вам спадабаліся, і вывучыце іх на памяць.

## ДАКУ́ЧЛІВАЯ БАЙКА

— Расказаць табе дакучлівую байку?

— Раскажы!

— Ты кажаш — раскажы, і я кажу — раскажы. Расказаць табе дакучлівую байку?

— Раскажы!

— Ты кажаш — раскажы, і я кажу — раскажы. Расказаць табе дакучлівую байку?

— Не! Ты кажаш — не, і я кажу — не. Расказаць табе дакучлівую байку?

(І далей спачатку.)



*Даку́члівы* — надаедлівы.



1. Чаму такую байку называюць дакучлівай? Чаго ў ёй многа, а чаго мала?
2. Як чытаць дакучлівую байку?
3. Прачытайце байку самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [р], [ч].
4. Размяркуйце ролі ў байцы і прачытайце яе.

## КАЗКА

> Вось паслухай, зрабі ласку:
> Раскажу табе я казку...
>
> *Якуб Колас*

### КОЦІК ПЕТРЫК І МЫШКА

Аднаго разу коцік Петрык захацеў мышку злавіць. Ён быў яшчэ маленькі, але чуў ад дарослых катоў, што яны заўсёды ловяць мышэй. І Петрыку вельмі ж захацелася стаць хутчэй дарослым.

Пайшоў ён у гумно. Хадзіў сюды-туды — нікога няма. Раптам у кутку нешта зашамацела. Петрык скокнуў туды і ўбачыў маленькага звярка.

— Ты хто? — спытаў Петрык.

— Мышка.

— Вось ты мне і патрэбна.

— Навошта?

— Я не ведаю навошта, але ведаю, што катам трэба лавіць мышэй.

Мышка пасмялела і кажа:

— Каты ловяць мышэй, каб гуляць з імі ў «кошкі-мышкі». Хочаш, навучу цябе?



— Хачу! — сказаў коцік.

— Тады стань у куток, заплюшчы вочы і лічы да трох, а потым лаві мяне.

Спадабалася гульня Петрыку. Ён стаў у куток, заплюшчыў вочы, а калі далічыў да трох, мышкі было ўжо не дагнаць...



1. Ці ведаеце вы гульню «кошкі-мышкі»? Раскажыце пра яе.
2. На якую хітрасць пайшла мышка?
3. Што з гэтага выйшла? Прачытайце канцоўку казкі.
4. Перачытайце казку і падрыхтуйцеся да выразнага чытання размовы коціка з мышкай.

5. Прачытайце казку яшчэ раз. Падзяліце яе на часткі па плане.

П л а н

1. Коцік Петрык захацеў стаць дарослым.
2. Сустрэча з мышкай.
3. Гульня.

6. Падрыхтуйцеся да пераказу адной з гэтых частак (на выбар) блізка да тэксту.

## ЗАБАЎЛЯНКА

А коцічак шэранькі,
Яго хвосцік беленькі,
Беленькі жывоцік.
Пабег, пабег коцік
У поле гуляць,
Дзяцей забаўляць.
За ім следам кошка,
Кошка-беланожка.

# СНЕГ ІСКРЫЦЦА ПАД НАГАМІ...

*Зоська Верас*



## СОНЦА СВЕЦІЦЬ...

*Зоська Верас*

Сонца свеціць
там над намі,
снег іскрыцца
пад нагамі,
мароз цісне,
дакуча́е,
а наш Янка
і не дба́е:

з гор на саначках
нясецца —
гарацць вочкі,
сэрца б'ецца.





*І не дба́е* — не звяртае ўвагі.



1. Хто рады зіме? Якія словы ўказваюць на радасны настрой? Прачытайце.
2. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да чытання ўголас. Пры чытанні перадайце свае адносіны да зімы.

# ЛЯСНАЯ ГОСЦЯ

*Расціслаў Бензярук*

1

Набліжаўся Новы год. Аднойчы, калі моцна разгулялася мяцеліца, нехта пастукаў у акно. Дзеці адарваліся ад падручнікаў і ўбачылі прыгожую лясную госцю.

— Ёй холадна на марозе, — пашкадавала адна дзяўчынка. — Трэба пусціць у клас, няхай пагрэецца.

— Госці, напэўна, цесна будзе ў нашым класе, — заўважыла настаўніца.

— Давайце запросім яе ў спартыўную залу, — пачуліся галасы. — Там прасторна і цёпла.

2

Так і зрабілі. Абагрэўшыся, лясная госця засумавала.

— Хочацца мне да сяброўкі бярозы, да рабіны ў чырвоных кара́лях, — сказала яна.

Задумаліся дзеці, як развесяліць госцю.

— Давайце ўпрыгожым яе, — прапанавала настаўніца.

Дзеці павесілі розныя цацкі, цукеркі, яблыкі. Але госця ўсё роўна не радавалася:

— Да мяне часта прыбягалі і заяц-бяляк, і вавёрачка, і ліса, а зараз нікога няма.

— Будуць у цябе і зняркі, — паабяцалі дзеці.

3

Яны зрабілі маскі зайца, вавёркі, лісы. А калі прыйшлі Дзед Мароз і Снягурка,



пачалі вадзіць карагод, спяваць песні. Развесялілася лясная госця і вырашыла кожны раз пад Новы год прыходзіць да дзяцей.

Думаю, вы здагадаліся ўжо, як завуць лясную госцю.



*Кара́лі* — упрыгожанне з каралаў або каштоўных камянёў.



1. Як звалі лясную госцю?
2. Дзе адбывалася дзеянне: у лесе, у класе, на вуліцы, у спартыўнай зале?
3. Як вырашылі дзеці развесяліць ёлку?
4. Чаму развесялілася лясная госця?
5. Як вы разумееце выразы: «лясная госця», «вадзіць карагод»?
6. Прачытайце тэкст па частках і да кожнай з іх падбярыце назвы.
7. Перакажыце тую частку твора, якая вам найбольш спадабалася.

## ЗАГАДКА



Заўсёды, летам і зімой,
Мае́ іголачкі са мной.

- Самыя вясёлыя зімовыя святы — Новы год і Каляды. З гэтымі святамі людзі звязваюць надзеі на шчаслівае жыццё. Колькі радасці яны прыносяць дзецям!

## ЦУДОЎНЫЯ СВЯТЫ

*Васіль Жуковіч*

Вялікую радасць
на вуліцы, у хаты
прынеслі Каляды,
зімовыя святы.

Прынеслі забавы,
і жарты, і песні,
загадкі, і гульні,
і танцы прынеслі.

Не спі, пані скрыпка,
і, бубен, прачніся —
цудоўныя святы
ў нас пачаліся.



1. Пра якое свята гаворыцца ў вершы?
2. Якую радасць прыносяць у хаты Каляды? Прачытайце.
3. Раскажыце па малюнку пра святкаванне Каляд.
4. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся чытаць уголас. Падумайце, які настрой вы хочаце перадаць пры чытанні верша.

# ЗІХАТЛІ́ВЫЯ СНЯЖЫНКІ

*Пятро Сушко*

Па зямліцы Дзед Мароз
Поўны мех сняжынак нёс.
Рассяваў іх па палях,
Па лясах і па лугах,

Рассяваў па ўсіх сцяжынках
Зіхатлівыя сняжынкі,
Каб святлей было́ на свеце,
Каб гулялі з імі дзеці.



*Зіхатлі́вы* — бліскучы.



1. Якім вы ўяўляеце сабе Дзеда Мароза?
2. Дзе рассяваў Дзед Мароз сняжынкі? Для чаго? Прачытайце.
3. Намалюйце словамі карціну, якую вы ўяўляеце пры чытанні верша.
4. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша. Правільна вымаўляйце словы з гукам [дз’].
5. Паназірайце за сняжынкамі. Якія яны па форме, па колеры?

## СВОЙ ЗАЯЦ У ЛЕСЕ

*Артур Вольскі*

### 1

Сярожа сядзеў побач з вадзіцелем і глядзеў, як паўзе пад колы пабялелая стужка асфальту, выхапленая з цемры фарамі. Спачатку гэта было́ цікава. Сярожа ўяўляў, што ён сам сядзіць за рулём на шафёрскім месцы. Потым яму гэта надакучыла.

Прахапіўся ён ад раптоўнага крыку:

— Заяц! Заяц!

Хлопчык сапраўды́ ўбачыў зайца. Ён ляцеў перад самай машынай. У яркім святле фар мільгаў яго кароценькі белы хвосцік...

Сон як рукой зняло. Сярожаў знаёмы, Саша, кінуўся з задняга сядзення наперад.

— Хутчэй! Хутчэй! — крычаў ён шафёру. — Дагані яго!..

### 2

Шафёр націснуў на педаль газу і ніжэй схіліўся да руля. Твар яго зрабіўся суровы, нават жорсткі. У вачах з’явілася не-



шта драпежнае. Сярожу здалося, што ён падобны зараз да каршуна́, які высачыў бездапаможную здабычу.

Заяц то сціскаўся ў шэры камяк, то выпростваўся, як адпушчаная спружына.

«Чаму ён не збочыць з дарогі? — не мог зразумець Сярожа. — Там жа кусты... ратунак...»

А зайцу цемра за межамі святла ад фар здавалася, напэўна, чорнай сцяной. І ён праставá ў далей, па асветленай паласе, як па вузкім калідоры. Амаль пад самымі коламі...

— Давай, давай! — не сунімаўся Саша. — Левым яго, левым!..

3

Сярожу стала невыносна шкада гэтую бяскрыўдную шэранькую істоту.

— Не трэба! — закрычаў ён на ўвесь голас. — Не трэба!

І ўчапіўся абедзвюма рукамі ў дужую руку шафёра.

Машына тузанулася і стала. Зрабілася так ціха, што Сярожа адчуў нават, як гучна б'ецца яго сэрца.

А шафёр паклаў сваю рукý на Сярожавы плечы, зусім як роўнаму, і сказаў:

— Лічы, брат, што ў цябе ёсць цяпер свой заяц у лесе...



*Праставáць* — бегчы прама, не зварочваючы.



1. Хто вам спадабаўся ў апавяданні, хто — не? Чаму?
2. Чаму «Сярожу стала невыносна шкада гэтую бяскрыўдную шэранькую істоту»?

3. Як выглядаў твар шафёра ў час пагоні? Прачытайце.
4. Якія словы і выразы перадаюць хваляванне хлопчыка? Прачытайце.
5. Што зрабіў Сярожа, каб выратаваць зайца?
6. Прачытайце апошнія радкі апавядання і падумайце, чаму так сказаў шафёр.
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту.
8. Знайдзіце і прачытайце словы, якімі можна падпісаць малюнак.

## ЗІМОВАЯ АЗБУКА

*Міхась Даніленка*

Прыйшоў з лесу Юркаў бацька, павесіў на сцяну стрэльбу і сказаў:

— Каля Мажэйкавай паляны ліса мышкавала.

— А як ты дазнаўся? — пытаецца Юрка.

— Азбука такая ёсць, — хітра прыжмурыў вока бацька. — Хочаш, заўтра пойдзем у лес — навучу разумець тую азбуку.

І вось ідуць яны ўдвух: наперадзе бацька, ззаду Юрка. А ўсюды на некранутай

роўнядзі снегу — сляды і сляды. Трапляюцца мале́нькія — крыжыкам — і такія, нібы хто ўторкваў палку ў глыбокі снег.

— Гэта сарокі падбіралі насенне з дрэў. Бачыш: доўгімі хвастамі за сабой чыркалі, — тлумачыць бацька. — А там вунь і лясная мыш ланцужкі слядоў нанізала.

Заяц скача шырока — заднія ногі ў яго доўгія. І вось на снезе адбіткі яго слядоў — спяшаўся, мусіць, даўгавухі або ўцякаў ад галоднай лісы…

Усё відаць на снежнай коўдры: і як цецерукі начавалі ў пу́льхным снезе, і як капыто́м гру́каў лясны волат — лось —



праломваў тонкі лядок у ручайку, каб напіцца, і як таўкліся каля дарогі галодныя вароны — падбіралі рассыпаныя зярняткі аўса.

— Вось яна — зімовая азбука, — сказаў бацька. — Вучыся чытаць яе: усе таямніцы табе лес раскрые.



*Пу́льхны* — мяккі.



1. Пра якую зімовую азбуку гаворыцца ў апавяданні?
2. Ці можна яе назваць азбукай жыцця жыхароў зімовага лесу? Чаму?
3. Чаму вучыў бацька Юрку?
4. Прачытайце апошнія радкі тэксту. Як вы іх разумееце?
5. Сляды якіх птушак вы бачылі зімой каля хат, дамоў? Раскажыце.
6. Прачытайце апавяданне яшчэ раз і выберыце сказы:
   - пра жыццё звяроў зімой;
   - пра жыццё птушак зімой;
   - пра таямніцы лесу.

## ЗІМА

*Пятрусь Броўка*

Ой, зіма, зіма, зіма!
Весялей цябе няма!
Горка, санкі, гоман, смех.
Сіні вечар. Белы снег.

Усе дзеці на ваньках,
Колькі радасці ў вачах!
Мчаць уздоўжкі, папярок,
Як вуле́й, гудзе каток.



1. З якім пачуццём апісвае паэт зіму́?
2. Які настрой у дзяцей? Прачытайце.
3. Як вы разумееце выраз: «Як вулей, гудзе каток»?
4. Прачытайце верш шэптам і падрыхтуйцеся чытаць уголас. Перадайце пры дапамозе інтанацыі свае адносіны да прачытанага.
5. Вывучыце верш на памяць.





Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:

1. Якая пара года адлюстравана?
2. Куды прыйшлі дзеці? Чым займаюцца?
3. Хто бегае каля дзяцей?
4. Чаму дзецям так весела?
5. Вусна складзіце апавяданне «Зімовыя забавы».

   Словы для выкарыстання: *халодная зіма, дзеці катаюцца, ледзяны каток, коўзкі лёд, сабака Жучок, звіняць канькі, радасны настрой, добра катацца.*

## ПЛЫВІ, РЫБКА

*Мікола Янчанка*

### 1

Прыйшла зіма. Заснежыла лясы, палі́ і сенажаці. Рэкі закавала. Ды так, што нават імклівыя перака́ты лёдам пакрыліся. Дзядулю гэта асабліва непакоіла.

— Ведаеш, унучак, — сказаў ён аднойчы Лёньку, — пад лёдам без паветра рыба задыхаецца. Дапамагчы ёй трэба.

— А як жа ёй дапаможаш? — запытаў Лёнька.

— А вось як, — растлумачыў дзядуля. — Мы прасячом у лёдзе «акенцы» — і лягчэй рыбе дыхаць стане. Ведаеш, пойдзем сёння. Пасля заняткаў табе такая прагулка карыснай будзе.

### 2

Яны ўзялі сякеру і шу́фель і пайшлі на раку. Лёнька расчышчаў ад снегу невялікія пляцоўкі, а дзядуля прасякаў там «акенцы». Ён асцярожна высякаў квадратную

глыбу і запіхваў яе пад лёд. Потым ачышчаў шуфлем «акенца» ад ледзяных крошак.

І адразу ж сюды збіралася рыба. Плоткі, акунькі, ляшчы. Яны высоўвалі галовы з вады, пра́гна хапаючы ротам паветра.

Дзядуля з Лёнькам глядзелі на іх, радаваліся ды гасцінна запрашалі:

— Плыві, рыбка, малая і вялікая!

Да вечара яны прасеклі дванаццаць «акенцаў». Стаміліся, вядома. Але дадому ішлі радасныя.





*Перака́ты* — мелкаводныя ўчасткі ракі.
*Шу́фель* — шырокая лапата.
*Пра́гна* — з вялікім жаданнем, з ахвотай, нецярпліва.



1. Якія «акенцы» і для чаго высякалі дзед з унукам?
2. Як рыбкі паводзілі сябе, калі адкрываліся «акенцы»? Прачытайце.
3. Чаму радаваліся дзядуля і Лёнька? Прачытайце.
4. Разгледзьце малюнак і падбярыце да яго ўрывак з тэксту.
5. Прачытайце першую частку твора і перакажыце яе.

## МАРОЗ І ГАРАЧЫНЯ

Забаўлянка

*Уладзімір Паўлаў*

Мяне ў ліпені мароз
Праз кажух даймаў да слёз.
Ды затое ў лютым
Бегаў я разуты.

— Гэта жарт.

— Чаму?

— Ёсць прымаўка: «Пытае люты, ці добра абуты». А вось у ліпені, у сярэдзіне лета, карысна пабегаць і басанож. Асабліва па расе.



Чым адрозніваецца гэтая забаўлянка ад іншых? Што тут незвычайнага?

## ДЗЕ ХАВАЕЦЦА МАРОЗ

*Пятро Рунец*

— Бабуля, а дзе хаваецца ўлетку мароз? — спытала ўнучка.

Бабуля разгублена паглядзела на малую, не ведаючы, што і адказаць. На дапамогу ёй прыйшоў Саша.

— Я ведаю, — сказаў ён.

— Ну, дзе?

— У халадзільніку.



1. Пра што спытала ўнучка?
2. Што ў адказе Сашы выклікае смех?

# ВЯСНА, ВЯСНА ЖАДАНАЯ!..

*Якуб Колас*



## ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

*Якуб Колас*

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары́, ці не?
На пагорках — булі-гулі!
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк,
На яго, бы тая матка,
Сонца кі́дае свой зрок.

А зіма аж пачарнела,
Годзе ёй тут кро́сны ткаць!
Ну, маленства, жыва, смела
Выйдзем ве́сну прывітаць!



*Кро́сны* — ткацкі станок. У вершы «кросны ткаць» — у значэнні «маляваць узоры».



1. Якія дзве розныя карціны паэт адлюстраваў у вершы? Якія розныя пачуцці перадаў?
2. Якой паказаў аўтар зіму? А вясну? Якімі вы сабе іх уяўляеце?
3. На чыім баку, па-вашаму, аўтар? Пацвердзіце словамі з верша.
4. З чым параўноўвае аўтар ручаёк і сонца?
5. Якімі словамі паэт «ажыўляе» ручаёк, надае яму чалавечыя рысы? Прачытайце.
6. Прачытайце другі слупок верша і намалюйце словамі да яго карціну.
7. Як вы разумееце словы: «А зіма аж пачарнела, годзе ёй тут кросны ткаць!»?
8. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Ці аднолькава трэба чытаць радкі верша? Вы-

дзеліце пры чытанні словы, у якіх перадаюцца дзеянні вясны і зімы.
9. Вывучыце верш на памяць.

## ВЯСНА ІДЗЕ

*Валерый Кастручын*

Засмяялася ў небе сонейка і пачало праменямі лічыць на стрэхах ледзяшы.

— Дзінь-дзінь-дзінь, — як цымбалы, зазвінелі льдзінкі.

Забулькалі, заспявалі пад снегам ручаі. На старо́й тапалі ацерабі́ўся, замахаў крыламі чорны грак.

«Убачыў грака — вясну сустракай» — кажа прымаўка. Снег у полі пацямнеў, набрыня́ў і асеў. На ўзгорках чарнеюць праталінкі. У лесе на дрэвах набухаюць пупышкі. Весела звіняць сінічкі на голым веццы. Звонка грукае дзяцел на старо́й асіне. Грукаў, грукаў, аж разбудзіў мядзведзя. Вылез мішка з берлагу́, пачухаў за вухам, зажмурыўся ад сонца і зароў на ўвесь лес: «Вясна ідзе!..»



Выскачыў з-пад кусціка маленькі зайчык, працёр лапамі вочкі і здзівіўся — лес пацямнеў, елачкі зелянейшыя сталі. Нават маму сваю не пазнаў: скінула яна свой белы кажушок, адзелася ў шэранькую світку і скубе на праталінцы леташні дзяцельнік.

Наўкола ўсё булькае, звініць і гукае: «Вясна ідзе-е-е!»



*Ацерабíцца* — атрэсціся, ачысціцца.
*Набрыня́ць* — набрацца вільгаці, вадкасці.
*Сві́тка* — доўгая сялянская вопратка.
*Дзя́цельнік* — дзікая канюшына.



1. Ці можна па малюнку вызначыць, аб чым пойдзе размова ў тэксце? Чаму?
2. Якімі словамі аўтар апісвае змены ў прыродзе, што адбываюцца напрадвесні? Прачытайце.
3. Як вы разумееце прымаўку: «Убачыў грака — вясну сустракай»?
4. Знайдзіце на с. 45 прыказкі пра вясну і прачытайце іх.
5. Як звяры паводзілі сябе ў час надыходу вясны? Якімі словамі перадаюцца ў тэксце іх паводзіны? Прачытайце.
6. Знайдзіце і прачытайце тыя словы тэксту, якія падыходзяць да малюнка на с. 76. Дайце назву гэтаму малюнку.
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пастарайцеся пры чытанні ўголас перадаць вясенні настрой гэтага твора.

## ПАВОДКА

*Віталь Вольскі*

На рэках не скончылася яшчэ паводка. Рэкі выйшлі з берагоў і злучыліся ў нізінах з ляснымі рэчкамі, раўчука́мі і балотамі ў адзіную вялікую вадзяную прастору. Асобныя ўзвышшы ператварыліся ў астраўкі, на якіх ратуюцца ад вады лясныя звяры.

Вось сядзіць пад кустом цэлая грамадка зайцо́ў. Яны прытуліліся адзін да аднаго.



Каля іх можна часам убачыць і лісіцу. Трывожна бегае яна па астраўку, паглядае на ваду́, а на зайцоў не звяртае ніякай увагі, быццам іх тут зусім няма.

Калі падплыць да такога астраўка, можна ўсіх гэтых звяркоў пабраць рукамі і пасадзіць у лодку. Яны будуць сядзець ціха і мірна, пакуль лодка не наблізіцца да цвёрдай зямлі. Тады ўсе пасажыры паўскакваюць адразу са сваіх месцаў і, не чакаючы каманды, знікнуць у лесе, не падзякаваўшы нават за ратунак.



*Раўчу́к* — невялікая канаўка.



1. Чаму зайцы́ апынуліся на астраўку?
2. Чаму ліса не звяртала на іх увагі?
3. Ці хваляваліся вы пры чытанні гэтага тэксту? За каго вы непакоіліся больш? Чаму?
4. Чаму звяркоў на астраўку можна нават «пабраць рукамі»?
5. Як адносіцца чалавек да тых, хто апынуўся ў бядзе?

6. Прачытайце тэкст і падзяліце яго на часткі па плане.

П л а н

1. Рэкі выйшлі з берагоў.
2. Звяркі на астраўку.
3. Пасажыры ў лодцы.

7. Падрыхтуйцеся да пераказу. Пастарайцеся расказаць падрабязна, выкарыстоўваючы словы з тэксту.

## МАМІНА СВЯТА

*Васіль Жуковіч*




Заўтра свята веснавое —
Восьмага сакавіка.
Што падорыць маме Зоя,
клапатлівая дачка?

Што падорыць маме Зоя,
не пытайцеся — сакрэт.
Заўтра, заўтра раніцою
мама ўбачыць свой партрэт.



1. Пра якое свята гаворыцца ў вершы?
2. Што рашыла падарыць маме Зоя?

3. Як вы віншуеце сваю маму?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Падумайце, у якім тэмпе яго лепш чытаць, які настрой перадаць.

## БЕЗБІЛЕТНАЯ ПАДАРОЖНІЦА

*Артур Вольскі*

### 1

Жульцы неаднойчы даводзілася ездзіць з намі ў тралейбусе. Мы часам бралі яе з сабой на работу. Нават у госці. У дарозе яна заўсёды вельмі хвалявалася. Доўга не магла ўсéдзець на адным месцы. То мне на рукі ўскочыць, то да гаспадыні перабяжыць, то ў Сярожы на каленях уладкуецца.

Аднаго разу кантралёр, правяраючы білеты, пажартаваў:

— Безбілетніца! Таму і баіцца, каб не высадзілі, хвалюецца...

Неяк раніцай я пайшоў у магазін па хлеб. І Жулька за мной увязалася. Перайшлі на другі бок вуліцы. А тут якраз тра-

лейбусны прыпынак. І тралейбус падыходзіць. І дзверы адчыняюцца. Не паспеў я і вокам міргнуць, а Жулька — ужо ў тралейбусе. Пабег я за ёй, але дзверы перад самым маім носам зачыніліся. І тралейбус рушыў далей.

Кінуўся я спачатку ўслед. Ды дзе там! Хіба дагоніш...

## 2

Ну, думаю, усё. Бывай, Жулька!.. Як я зараз дадому вярнуся? Што скажу?

Сумна мне стала. І горка. Нават пра хлеб забыўся. Без пэўнай мэты брыду сабе па вуліцы да наступнага прыпынку. Для ачысткі сумлення. Аж бачу — ляціць мне насустрач белы пуховы камяк і вішчыць на ўсю вуліцу Жульчыным голасам.

Яна! Жулька!



А тая з радасці як скочыць з ходу мне проста на грудзі. І лізь сваім гарачым ружовым язычком проста ў нос. Падхапіў я яе на рукі, прыціснуў да шчакі.

Ідуць людзі. Глядзяць на нас. Дзівяцца. Ну і няхай сабе!

А хлеба ў той дзень мы так і не прынеслі.



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні гэтага апавядання?
2. Чаму кантралёр назваў Жульку безбілетніцай? Прачытайце.
3. Што здарылася з Жулькай? Прачытайце.
4. Якія адносіны былі паміж Жулькай і гаспадаром?
5. Чаму сумна і горка стала гаспадару?
6. Як радаваліся сустрэчы Жулька і гаспадар?
7. Перакажыце тэкст па плане.

План

1. Жулька ў тралейбусе.
2. Не паспеў.
3. Бывай, Жулька!..
4. Сустрэча.








Разгледзьце малюнкі. Вусна складзіце па малюнках апавяданне «Дапамога птушкам», адказваючы на пытанні:

1. Калі гэта было́?
2. Што вырашылі зрабіць дзеці?

3. Куды яны павесілі шпакоўні?
4. Як замацавалі іх?
5. Чаму радуюцца дзеці і шпакі?

Словы для выкарыстання: *сядзіць шпак, майстэрня, дзеці робяць, шпакоўня, прымацоўваюць, унізе, лесвіца, на галінках, паглядаюць, каля дрэва.*

## ВЯСЕННЯЯ РАНІЦА

*Міхась Чарот*

Гляньце, дзеткі, у аконца,
Ды пара ўжо ўставаць.
Як прыгожа там бясконца.
Сорам, дзеткі, позна спаць!
Заглянула сонца ў вочкі,
Дзень прыйшоў — даволі сну.
На свет гляньце, галубочкі,
Усе вітаюць там вясну.
Зеленее траўка ў полі.
У небе птушачкі пяюць.
Эх! Зімы не будзе болей,
Хутка кветкі зацвітуць.



1. З якім пачуццём аўтар піша пра надыход вясны? У якіх словах гэта найбольш ярка выражана?
2. Якія прыкметы вясны паэт перадаў у вершы? Прачытайце.
3. Да чаго заклікае дзяцей аўтар? Прачытайце.
4. Як вы разумееце выраз «Заглянула сонца ў вочкі»? Якую карціну вы сабе ўяўляеце?
5. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся чытаць уголас. Пры чытанні перадайце пачуццё радасці.
6. Вывучыце верш на памяць.

## ПРЫЙШЛА ВЯСНА

*Зоська Верас*

### 1

Хоць мароз яшчэ парою дакучаў ды і снег яшчэ не зняў з зямлі сваёй белай по́сцілкі, але ж сонейка неяк мацней ужо грэла і залівала ціхія палі і сенажаці.

Яго магутныя прамяні ўпалі і на страху Янкавай хаткі і нават заглянулі праз акенца ўсярэдзіну. Янка адчуў іх цёплую лас-



ку, зразумеў ціхі прызыў і, хуценька апрануўшыся, выбег у садок.

Там яго бацька ўважліва аглядаў кожнае дрэва. Ён адпілоўваў сухія непатрэбныя галінкі, а пасля ачышчаў пні і грубейшыя сукі ад моху.

## 2

Угледзеўшы Янку, бацька весела крыкнуў:

— Што, сынок, сустракаць вясну выйшаў?

— А дзе ж тая вясна? Снег усюды ляжыць. Ды яшчэ гэтак сцюдзёна, — маркóтна адказаў Янка, паціраючы пачырванелыя ручкі.

— Пачакай, сынок, будзе ўжо цёпла і хораша, — сказаў бацька. — Кожны дзень вясна да нас набліжаецца. Вось з гэтых пучкоў, што бачыш на дрэвах і кустах, вырастуць зялёныя лісточкі. Палі зазелянеюць. Як толькі сы́дзе снег з лясных узгоркаў, глянуць на нас з-пад кустоў ляшчы́ны сіненькія вочкі пралесак. Помніш, колькі іх былó летась?

— Я помню, помню, татачка. Дык як закрасуюць пралескі, то ўжо будзе вясна? — пытаўся Янка.

Ён пастаяў яшчэ крыху́, падумаў ды пайшоў дахаты.

## 3

У наступныя дні надвор’е было вельмі кепскае. Дробны дождж барабаніў у вокны ад раніцы да вечара, а вецер згінаў дрэвы аж да зямлі. Доўга прыйшлося сядзець

Янку ў хаце. Аж нарэшце аднае́ раніцы сонейка не-спа-дзя-ва-на выглянула з-за хмар. Хлопчык выбег у садок. Якая перамена! Як цяпер інакш усё выглядала! Снегу не было нідзе ні крышку. Праз жоўтую леташнюю траву прабівалася ўжо свежанькая зялёная траўка. Кусты агрэсту пакрыліся маладзенькімі лісточкамі.

Высока ў небе звінеў жаўранак. А на страсе адры́ны стаяў бусел.



*Марко́тна* — сумна, тужліва.
*Ляшчы́на* — тое, што і арэшына.
*Адры́на* — халодная будыніна для захоўвання кармоў, інвентару.



1. Чаму Янка не верыў, што вясна наступіла?
2. Што на гэта адказаў бацька?
3. Ці задаволіў Янку адказ бацькі? Падмацуйце адказ словамі з тэксту.
4. Як вы думаеце, што хацеў яшчэ спытаць у бацькі хлопчык?
5. Знайдзіце тую частку апавядання, якая адносіцца да малюнка, і прачытайце.

6. Прачытайце размову бацькі з сынам. Размяркуйце гэты тэкст па ролях і прачытайце яго.

- Вялікдзень — вясновае хрысціянскае свята. Падчас яго фарбуюць яйкі, пякуць пірагі. Пад вокнамі хат ходзяць валачобнікі і вітаюць гаспадароў песнямі, пажаданнямі.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

*Васіль Вітка*

Траўка брацца пачала.
У імша́ніку пчала
Прачнулася і гудзе:
— Хутка ўжо Вялікі дзень!

А людзі між сабою
Пацяшаюцца вярбою.
Ніхто нікога не міне́ —
Ні цябе, ні мяне.

І цябе, і мяне
Кожны дубцом сцебане́:

— Не я б'ю, вярба б'е,
За тыдзень — Вялікдзень!
— І ты, родны народ,
Будзь здароў на ўвесь год!



*Імша́нік* — уцепленае памяшканне для зімоўкі пчол.

*Сцебану́ць* — ударыць чым-небудзь гнуткім.



1. Што вы ведаеце пра Вялікдзень?
2. Які народны звычай апісвае паэт?
3. Прачытайце апошнія радкі верша і адкажыце, чаго жадае ўсім паэт Васіль Вітка.
4. Падрыхтуйцеся выразна чытаць верш. Падумайце, у якім тэмпе яго лепш прачытаць, які настрой перадаць.

## ПЧОЛКІ І ВЯСНА

*Канстанцін Ушынскі*

### 1

Настала вясна, сонца сагнала снег з палёў. У пажоўклай леташняй траўцы праглядвалі свежыя, ярка-зялёныя сцяблін-

кі. Пупышкі на дрэвах раскрываліся і выганялі маладзенькія лісточкі.

Вось прачнулася і пчолка ад свайго зімовага сну, прачысціла вочкі касматымі лапкамі, разбудзіла сяброваk. Выглянулі яны ў акенца разведаць: ці сышоў снег і лёд і халодны паўночны вецер?

2

Бачаць пчолкі, што сонейка свеціць ярка, што ўсюды светла і цёпла, выбраліся яны з вулея і паляцелі да яблынькі:

— Ці няма ў цябе, яблынька, чаго-небудзь для бедных пчолак? Мы цэлую зіму́ галадалі.

— Не, — гаворыць ім яблынька, — вы прыляцелі вельмі рана. Мае кветкі яшчэ схаваны ў пупышках. Запытайцеся ў вішні.

Паляцелі пчолкі да вішні:

— Мілая вішанька! Ці няма ў цябе кветачкі для бедных пчолак?

— Наведайцеся лепш заўтра, — адказвае ім вішня, — сёння яшчэ няма на мне ніводнай адкрытай кветачкі, а калі адкрыюцца, я буду рада гасцям.

## 3

Сумныя і галодныя пчолкі хацелі ўжо дадому ляцець, як убачылі пад кусцікам сціплую цёмна-сінюю кветачку. Гэта была фіялачка. Яна адкрыла пчолкам сваю чашачку, поўную водару і салодкага соку.

Наеліся, напіліся пчолкі і паляцелі дадому вясёленькія.



*Сці́плы* — які не любіць хваліцца; просты, звычайны.



1. Пра якую пару года гаворыць пісьменнік? Чым вы можаце гэта пацвердзіць?
2. Што ўбачылі пчолкі, калі прачнуліся ад зімовага сну? Куды яны паляцелі? Што прасілі пчолкі ў яблынькі і ў вішанькі?
3. Хто выратаваў пчолак ад голаду?
4. Прачытайце тэкст і прыдумайце загалоўкі да кожнай часткі.
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання другой часткі тэксту. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [ч], [р].

## ТРЫ КА́СКІ

*Васіль Хомчанка*

У Андрэйкі ёсць дома дзве каскі. Стаяць яны побач на паліцы.

Адна каска салдацкая. Яе з вайны прынёс дзед. Гэта каска ўратавала дзеда ад смерці. Бег дзед у атаку — ён быў тады яшчэ не дзедам, а маладым хлопцам, — і перад ім выбухнула міна. Секанула асколкамі. Адзін асколак і трапіў па касцы, ударам зваліў салдата на зямлю. Але каска аказалася мацнейшаю за асколак. Жывы застаўся салдат.



Другая каска бацькава, гэта мірная каска. Андрэйкаў тата працуе на будоўлі брыгадзірам. Шмат дамоў збудаваў ён са сваёй брыгадай. У тым ліку і дзе-вя-ці-па-вярхо-вы дом, у якім жыве Андрэйка. Калі хлопчык едзе па горадзе, тата яму паказвае ў акно: «Вунь мая школа. Палац культуры мой. І твой дзіцячы сад я таксама будаваў».

Бацькава каска ганаровая. Яе называюць залатой каскай і ўзнагароджваюць ёю лепшых рабочых на будоўлях.

Вось гэтыя дзве каскі і стаяць побач.

Дзедава — цёмная, сумная, з драпінамі і ўмяцінамі ад куль і асколкаў, напамінае пра баі, калі дзед абараняў ад ворагаў нашу зямлю.

Бацькава — ярка-аранжавая, вясёлая, сведка таго, як бацька ўзбагачае і ўпрыгожвае Радзіму, уратаваную дзедам.

Андрэйка марыць пра сваю каску, якую ён, як вырасце, будзе насіць. Ён верыць, што гэта будзе каска касманаўта. Дакладней, шлем касманаўта. І абавязкова Ан-

дрэйка потым паставіць яго побач з дзедавай і бацькавай каскамі.

І будуць стаяць яны побач, усе тры каскі.



1. Пра якія тры каскі расказваецца ў апавяданні?
2. Прачытайце пра каску, якая ўратавала дзеда ад смерці.
3. Чаму бацькава каска была мірнай, ганаровай?
4. Пра якую каску марыў Андрэйка?
5. Падзяліце тэкст на тры часткі. Перакажыце адну частку (на выбар).
6. Даведайцеся ў старэйшых (землякоў), хто з іх абараняў Радзіму. Раскажыце пра іх.

## САДЗІМ АЛЕЮ

*Міхась Пазнякоў*

Мы ў вясновую нядзелю
Садзім новую алею.
Садзім тут, уздоўж дарогі,
У гонар свята Перамогі.

Таня — ліпку,
Клім — дубок,
Ясь — каштанік,
Я — клянок.
А Святлана і Наташа
Паліваюць дрэўцы нашы.
Хай расце і зелянее
Наша слаўная алея!



1. У гонар якога свята садзяць дзеці алею? Калі яно адзначаецца?
2. Якія дрэўцы дзеці садзяць? Прачытайце.
3. Што хацеў сказаць чытачам аўтар гэтага верша?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Правільна вымаўляйце словы з гукамі [дз’], [г].

## ЦІ РАКА́, ЦІ РА́КА?

*Мікола Чарняўскі*

Крочыць з вудай Васілёк
Ву́лічнай сцяжынай.
Дружбакі крычаць здалёк:
— Што злавіў, скажы нам?



Разгубіўся —
Не пазнаць.
Стогне, небара́ка,
Бо не знае,
Як сказаць:
Ці рака́, ці ра́ка?



*Небара́ка* — няшчасны чалавек.



Чым адрозніваюцца аднолькавыя па напісанні словы?

## ЗАГАДКІ

*Мікола Чарняўскі*

* * *



У вячэрняй сіняве
Залаты чаўнок плыве.
Сонца глянула —
Ён знік,
Бо чаўнок той — ... .

* * *



Без нары не можа жыць,
Хвост пушысты мае,
Як ад ворага бяжыць —
След ім замятае.

* * *

Хто без вілаў,
Без лапаты
Нарабіў буртоў ля хаты,
Ускапаў увесь гарод?
Ну, вядома,
Гэта ... .





*Бурт* — яма для захавання агароднiны, пакрытая ад марозу саломай і прысыпаная зверху зямлёй.



1. Што трэба для таго, каб адгадаць загадку?
2. Знайдзіце словы, якія дапамаглі вам адгадаць загадку. Прачытайце.
3. Якія яшчэ загадкі вы ведаеце? Загадайце іх сябрам.

# З ЧАГО ЧАЛАВЕК ПАЧЫНАЕЦЦА...

*Аляксей Пысін*



## УЛАДЗІК

*Мікола Хведаровіч*

Спяшаецца Уладзік
Са школы дадому:
Ёсць многа работы
У хаце малому.

Нямала і клопату
Хлопцу таксама,
Бо занядýжала
Уладзіка мама.

Яна дапамогі
У суседзяў не просіць:
Сын дроў нарыхтуе,
Вады сам наносіць,

І посуд памые,
І збегае ў краму —
Бо вельмі шануе ён
Лю́бую маму.

А потым Уладзік
Урокі рыхтуе,
Рашае задачы,
Малюнкі малюе.



*Заняду́жаць* — захварэць.



1. Чаму спяшаўся Уладзік дадому?
2. Якую работу хлопчык выконваў дома?
3. Чым займаўся Уладзік пасля працы па доме? Прачытайце.
4. Чым вам падабаецца хлопчык? Чаму? Што вы можаце пра яго сказаць?
5. Раскажыце, як вы дапамагаеце сваім бацькам.
6. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## ГУЗІК

*Васіль Хомчанка*

Прыйшла Надзя са школы і сказала:

— Бабуля, у мяне гузік адарваўся. Прышый.

— Нясі, унучачка, іголку з ніткай.

Прынéсла Надзя іголку і шпульку ніткак, аддала бабулі.

— Вочы мае дрэнна бачаць, — сказала бабуля. — Працягні нітку ў іголку.

Надзя працягнула.

— А зараз вазьмі гузік, прыкладзі яго да паліто, вось сюды. Укалі іголку ў дзірачку. Так, правільна. Цяпер у другую.

Надзя рабіла так, як гаварыла бабуля, і не заўважыла, як гузік прышыла. Потым ужо сама аглéдзела ўсе гузікі на сваім паліто і сукенках. Дзе слаба трымаліся, падмацавала.

— Можа, і табе, бабуля, трэба дзе гузік прышыць? Давай я прышыю.

Знайшоўся такі гузік на ватóўцы — матляўся на адной нітцы. Надзя адарвала яго зусім і прышыла нанава.



— Дзякуй табе, бабуля, — з усмешкай сказала Надзя.

— За што дзякуй? Ты ж сама ўсё зрабіла.

— А за навуку.



*Вато́ўка* — куртка, уцепленая ватай.



1. За што падзякавала бабулі Надзя?
2. Як вучыла бабуля ўнучку? Прачытайце.
3. Ці спадабалася вам дзяўчынка? Чаму?
4. Прачытайце тэкст самастойна. Правільна вымаўляйце слова «гузік». Намалюйце словамі той эпізод, які найбольш вам спадабаўся.
5. Размяркуйце тэкст па ролях і праінсцэніруйце яго.

# СЯМ’Я





1. Разгледзьце малюнак.
2. Назавіце членаў сям’і. Раскажыце, чым займаецца сям’я. Пачніце так: «Вялікая сям’я сабралася на кухні гатаваць абед...»
   Словы для выкарыстання: *сям’я, дзядуля, бабуля, маці, бацька, дзеці, ва́рыць, чысцяць, морква, цыбуля, рыба, рэжа хлеб, суп, гатуе, батон, дзяўчынка, хлопчык, смажыць, бульба.*

## КАМПОТ

*Клаўдзія Каліна*

Мале́нькая Галя вельмі любіць памагаць маме па гаспадарцы. Сёння мама даручыла Галі памыць су́шаныя фрукты для кампоту. За абедам мама сказала:

— Ну, цяпер пакаштуем кампот нашай дачушкі, — і паставіла перад кожным кубак, а перад Галяй — яе любімы, з дзвюма чырвонымі вішанькамі.

Тата адпіў крыху́ кампоту з кубка і глянуў на маму. Мама зрабіла глыток і паглядзела на Галю. Паглядзела і гаворыць:

— Дачушка, ты добра памыла фрукты?

— Так, мамачка, — адказала Галя, — вельмі добра памыла. Я нават мылам мыліла.



1. Што мама даручыла Галі?
2. Чаму кампот атрымаўся нясмачны?

# СМЯЕЦЦА, РАДУЕЦЦА ЛЕТА...

*Анатоль Астрэйка*



## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ЛЕТА

*Анатоль Астрэйка*

Смяецца, радуецца лета,
Пяюць шпакі і салаўі.
Шуміць пшаніцаю палетак,
І ва́бяць да сябе гаі.
Дзень добры, лес!
Дзень добры, поле!
Зямная слаўная краса!
Дзень добры лісціку на голлі,
Табе, празрыстая раса!

Няхай нас лашчыць,
Цешыць лета,
Пяюць шпакі і салаўі.
Дзень добры,
Аржаны́ пале́так,
Дзень добры,
Родныя гаі́!



*Ва́біць* — прыцягваць да сябе.
*Аржаны́ палетак* — поле, засеянае жытам.
*Гай* — невялікі лісцевы лес.



1. Як паэт гаворыць пра надыход лета? Прачытайце.
2. Што вы ўяўляеце, калі чытаеце гэты верш?
3. З кім вітаецца паэт? Якія словы для гэтага ён ужывае?
4. Ці падабаецца паэту летняя пара? Дакажыце словамі з верша.
5. Ці прыходзілася вам назіраць у прыродзе тое, аб чым піша аўтар? Дзе? Раскажыце.
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Падумайце, у якім тэмпе трэба чытаць верш — павольна ці хутка.

## ПТУШКІ Ў ЧЭРВЕНІ

*Віталь Вольскі*

Змаўкаюць птушыныя спевы. У большасці лясных птушак вывеліся птушаняты. Клапатлі́выя бацькі́ безупынна носяць у гнёзды чарвякоў, вусеняў, слімакоў, матылькоў, мушак. Нялёгка ім накарміць дзяцей.

Падлічана, што адна сям'я шпакоў знішчае за дзень каля чатырохсот шкодных садовых слімакоў. А колькі вусеняў, матылькоў, жучкоў!

Вялікае значэнне мае і тое, што птушкі разносяць насенне дрэў і розных раслін.



Гэтым яны дапамагаюць росту і развіццю лясоў.

Шанаваць і абараняць птушак, нашых маленькіх вясёлых сяброў і памочнікаў, — абавязак усіх школьнікаў, хлапчукоў і дзяўчынак.

Трэба не толькі самім будаваць для птушак хаткі, але ахоўваць іх, не даваць нікому разбураць гнёзды і крыўдзіць птушанят.



1. Чаму трэба абараняць птушак?
2. Як пісьменнік называе птушак? Прачытайце.
3. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйце выказванне пра карысць птушак.
4. Якія птушкі гняздуюцца ў вашай мясцовасці? Раскажыце, што вы ведаеце пра іх.

## ПЧАЛА І МУХА

*Алесь Якімовіч*

Жылі́-былі́ Пчала і Муха. Пчала з ранку да вечара па лугах лятала, мёд збірала. А Муха толькі любіла мёд есці. Дзе мёдам

запахне — там і яна. А дзе мёду не чуваць — там Муха не хоча нават і пераначаваць.

Аднаго разу прысела Муха адпачыць на зялёным лузе. Сонейка Муху прыгравае, лёгкі ветрык абвявае. Кругом кветкі цвітуць, шустрыя конікі скачуць. У небе птушкі песенькі пяюць.

Задумалася Муха: як добра на свеце жыць! Думала-думала ды і задрамала.

А ў гэты час над лугам Пчала пралятала. Ляціць, гудзе, мёд у вулей нясе. Цяжка ёй, аж стогне, небарака.



Прахапілася Муха ды як закрычыць на Пчалу:

— Ах ты, такая-сякая! Чаго тут над вухам стогнеш, мне спаць пе-ра-шка-джа-еш?

— Выбачай, — сказала Пчала. — Я шмат мёду нясу, дык і стагну.

— Ха-ха, — засмяялася Муха, — шмат мёду нясеш, а сама нябось галодная, вунь якая худая — адны косці...

— Праўда, — адказвае Пчала, — мы, пчолы, збіраем пуды́, а самі худы́.

— А чаму ж вы худы? І мёд у вас, і вашчына ў вас...

— Дык жа мёд мы збіраем не толькі сабе, а і сваім дзеткам, і гаспадару, які нам хату зрабіў, даглядае нас.

— Чакай, чакай, — кажа Муха, — я нешта не зусім цябе разумею: як гэта можна мёд збіраць для іншых? Мы, мухі, так не робім. Мы толькі гатовага мёду шукаем.

— Ат, — замахала крылцамі Пчала, — няма мне калі з табою гаманіць: трэба хутчэй дадому спяшацца, мядовую кашку дзеткам варыць.

— А дзе возьмеш ты мядовую кашку?
— На сабе вязу.
— У чым?
— У вазку, у палазку́ і за па́зушкай.
Загула Пчала ды паляцела ў свой вулей.



*Пуд* — мера вагі, каля 16 кілаграмаў.
*Вашчы́на* — неачышчаны воск.



1. Якімі паказаны ў казцы Муха і Пчала? Пацвердзіце словамі з тэксту.
2. Прачытайце размову Мухі і Пчалы. Як вы можаце апісаць Пчолку? Пачніце так: «Пчолка з ранку да вечара збірала мёд...»
3. Што ў казцы асуджаецца, а што ўслаўляецца?
4. У чым галоўны сэнс казкі? Чаму яна вучыць?
5. Знайдзіце ўрывак, да якога зроблены малюнак. Падрыхтуйцеся да чытання яго па ролях.

## ПРЫКАЗКА

- Якую робіш справу, такую і набудзеш славу.

## У ПОЛІ

*Якуб Колас*

Грышка, хлопчык невялічкі,
У поле выйшаў з дому,
Люба там каля крынічкі
Хлопчыку малому!
У гушчары кустоў зялёных
Многа розных пташак,
Кветак белых і чырвоных,
Мошачак, мурашак...

Сядзе хлопчык над крынічкай
І не зварухнецца,
Пазірае, як над дзічкай
Пташачка снуéцца
І сваіх маленькіх дзетак
Корміць чарвячкамі.

Эх, як слаўна сярод кветак
Летнімі дзянькамі!..



*Снуéцца* — лятае туды-сюды.



1. Які настрой перадаецца ў вершы?
2. Якімі словамі перадае гэты настрой Якуб Колас? Прачытайце.
3. Чаму хлопчыку люба каля крынічкі? У чым бачыць Грышка прыгажосць прыроды? Прачытайце.
4. Пра што важнае хацеў сказаць чытачам паэт у вершы?
5. Як трэба чытаць верш? Чаму? Дзе тон мяняецца? Пацвердзіце словамі з тэксту.
6. Вывучыце верш на памяць.





Разгледзьце малюнак і адкажыце на пытанні:

1. Якая стаіць пара года?
2. Дзе адпачываюць дзеці?
3. Што яны робяць?
4. Вусна складзіце апавяданне па малюнку і дайце яму загаловак.
5. А як вы адпачываеце летам?

Словы для выкарыстання: *лета, дзеці, выхавальнік, аздараўленчы лагер, гульня, мяч, загараюць, праводзяць, ловяць рыбу, размаўляюць, рака, пясок, плаваюць.*

## ВОСЬ ДЫК СУСЕДЗІ!

*Аляксей Якімовіч*

Здарылася з Зайкам няшчасце. Бег ён па сцяжынцы, наступіў на востры сучок і параніў лапку. Забралі яго ў лясную бальніцу.

Тыдзень, другі ляжыць Зайка — ніхто з суседзяў не наведвае.

Прыляцела ў лес Варона, закрычала:

— Непр-рыгожа! Непр-рыгожа!..

Сапраўды, непрыгожа. Сабраліся звяры на паляне, каб вырашыць, каму да Зайкі ў бальніцу ісці.

— Жонка ў мяне захварэла, кашляе, — кажа Мядзведзь. — Прасіла, каб малінніку наламаў... Можа, ты яго наведаеш, Ліса? Помніш, летась на дзень нараджэння Зайка табе пуховую пярыну падарыў?

Закруціла Ліса хвастом:

— Нара ў мяне пасля дажджу абвалілася. Трэба рамантаваць. Няхай Воўк збегае. Зайка яму новы кажух аддаў, не пашкадаваў.

Завыў Воўк:

— Дома ваўчаняты сядзяць галодныя. У краму пабягу... Няхай Дзік наведае Зайку. Той заўсёды яго жалудамі частаваў.

— А хіба Зубру ён не дапамагаў сена касіць? — зарохкаў Дзік. — Няхай Зубр і сходзіць у бальніцу. У мяне вунь бульба на полі някопаная

— У мяне ата́ва някошаная, — апусціў галаву Зубр.



Ад шуму ды крыку прачнулася Чарапаха. Яна тут, на паляне, спала. Пытае:

— Чаго спрачаецеся, паважаныя?

— Зайка лапку параніў, — загаварыў Мядзведзь. — Ужо два тыдні ў бальніцы ляжыць.

— Бедны Зайка! — пашкадавала Чарапаха. — Сумна яму там аднаму.

— Схадзіла б ты да яго, ад мяне прывітанне перадала, — хітра прыжмурылася Ліса.

— Добра, — пагадзілася Чарапаха. — Пайду.

— Скажы, што і я люблю яго, — напомніў Мядзведзь.

— І ад мяне перадай прывітанне, — рохкнуў Дзік.

— І ад мяне, — падняў галаву Зубр.

А Воўк завыў на ўсё горла:

— І ад мяне не забудзься!.. Пацікаўся, як кормяць яго.

— Не хвалюйцеся. Ад усіх перадам прывітанне. Скажу Зайку, што вельмі чулыя і добрыя ў яго суседзі, — прамовіла Чарапаха і, павярнуўшыся, папаўзла паціхеньку ў бальніцу.

Мабыць, і цяпер яшчэ да Зайкі дабіраецца.



*Ата́ва* — трава, якая вырасла за лета на месцы скошанай.



1. Што здарылася з Зайкам?
2. Чаму Зайку ніхто не наведаў у бальніцы?
3. Што абяцала чарапаха перадаць зайку? Прачытайце. Ці згодны вы з ёй?
4. Размяркуйце казку па ролях і праінсцэніруйце яе.

## АЛЕСЯ І ЯНКА

### Песенныя загадкі

*Уладзімір Карызна*



Каля хаты на мяжы
Выраслі гурочкі.
Каб знайсці іх, трэба мець
Як у Янкі ... .

Выйшаў месяц пагуляць,
Сеў каля дарожкі.
Каб з Алесяй ён пабег,
Дайце яму ... .

На світанні за ракой
Заспявалі птушкі.
Каб пачуць іх, трэба мець
Як у Янкі ... .

У гародзе на градзе
Шмат салодкай бручкі.
А каб вырваць, трэба мець
Як у Янкі ... .



1. Прачытайце і адгадайце загадкі.
2. Паспрабуйце праспяваць іх разам з адгадкамі.

## А ЧАГО Ж Я ВАМ ЖАДАЮ?

*Кандрат Крапіва*

А чаго ж я вам жадаю?
Зараз, зараз прыгадаю...
Каб бадзёрымі былі́ вы,
каб разумнымі раслі вы,
каб былі здаровы самі,
каб былі здаровы мамы.

 А што б вы пажадалі людзям?



## АДГАДКІ

С. 17. Званок.

С. 29—30. Дуб і жалуды. Бульба. Гарбуз. Бурак. Часнок.

С. 32. Павуцінне.

С. 57. Елка.

С. 98—99. Маладзік. Ліса. Крот.

С. 119. Вочкі. Ножкі. Вушкі. Ручкі.

**ЗМЕСТ**

## Не проста ў словы я гуляю —
## На мове роднай размаўляю...



## Верасень букеты
## Запрасіў у школу...

**Мы не заўважылі і самі,**
**Як восень па зямлі пайшла...**



**Што ў народзе скажуць,**
**Як у вузел звяжуць...**

**Снег іскрыцца пад нагамі...**



**Вясна, вясна жаданая!..**

## З чаго чалавек пачынаецца...



## Смяецца, радуецца лета...

